Цана асобнага нумару 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 16 (67). Вільня, Серада 16 Лютага 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Нахай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі

ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## „РЭФОРМЫ“.

Яшчэ роўна месяц таму назад распачатыя мэтоды „успокоенія„ не закончыліся, як да вушоў беларускага грамадзянства даходзяць рожныя весткі аб „рэформе“. Гэтыя пасьпешныя крокі з боку ўраду маглі-б можа нават азадачыць не аднаго з Беларусаў, але досіць кароткай развагі, каб ацаніць сапраўдную вартасьць гэных вестак. Мы ведаем добра, што пустая бочка заўсёды больш гручыць за поўную. Гэтага груку аб рэформах адносна Беларусаў, ёсьць ужо аж за многа. То нейкі польскі камітэт засядае, то запрашаюць Беларусаў на нараду, то дапытваюца Беларусаў, чаго ім трэба, то аж сам міністар візытуе беларускую гімназію; усё гэта гаворa толькі аб адным, што польскія ўлады дагэтуль не навучыліся кіраваць сваей дзяржавай, дагэтуль трымаюцца ўпарта той самай палітыкі, каб Беларусаў пасадзіць у пастку. Прыказка: гарбатага магіла паправе — прытарноўваецца тут зусім. Бо ці-ж ня дзіўным зьяўляецца тое, што ўлады ўдаюць нейкую незвычайную дбаласьць адносна беларускага пытаньня, і толькі цяпер робяць дасьледы беларускіх спраў, дапытваюцца Беларусаў чаго ім трэба, калі ўсё гэта ўладам даўно ўжо ведама. Ня толькі папярэднія ўрады, але і ўрады пасьля маёвага перавароту маюць у сваіх партфэлях дамаганьні Беларускага Пасольскага Клюбу як адзінага законнага цяпер прадстаўніка Беларускага Народу. Гэтыя дамаганьні кажуць: Зямля мясцоваму сялянству бяз выкупу, амнэстыя для палітычных вязьняў, шырокія дэмакратычныя самаўрады, грунтоўная зьмена польскай адміністрацыі, беларускія школы для беларускіх дзяцей, поўная вольнасьць для беларусаў і беларускіх арганізацыяў, беларусізацыя царквы і касьцёла, зьмяньшэньне падатковых цяжараў і г. д.

Цяпер, нібы прыступаючы да рэформаў, польскі ўрад, быццам, ня ведае аб гэтых дамаганьнях Беларускага Народу і затым усё дапытваецца, чаго беларусам трэба. Вось гэты факт яскрава сьведчыць аб тым, што між дамаганьнямі Беларусаў і мэтамі польскай палітыкі існуе вялікая прорва. Гэтую прорву ніводзем польскі ўрад не прабаваў запоўніць ніякай канкрэтнай працай, а толькі імкнуўся да таго, каб Беларусаў сапхнуць у гэтую прорву, і такім чынам, быццам, уцячы ад разьвязваньня беларускага пытаньня наагул. Але жыцьцёвасьць беларускай ідэі перамагла ўсе імкненьні польскай шовіністычнай палітыкі. Не памаглі зусім „шопкі“ з Паўлюкевічам. Беларусы знаходзяцца з аднаго боку, а польская ўрадавая палітыка з другога, а між імі усё тая прорва, ды яшчэ павялічаная цяпер; гэтую прорву польскі ўрад хацеў-бы нечым залатаць, але падбіраныя латкі усё замалыя. Бо ці-ж аднымі беларускімі падручнікамі, ды яшчэ друкаванымі выключна лацінікай, як гэта маніцца пачаць польскі ўрад, можна вырашыць беларускае пытаньне?! Ціж прыспасабленьне таго ці іншага безработнага беларускага інтэлігента, які будзе перакладаць падручнікі, ёсьць доказам таго, што польскі ўрад адрокся думкі палянізацыі беларускіх земель і даў працу усей безработнай беларускай інтэлігенцыі?! Ціж некалькі дзесяткаў утраквістычных школ з вучыцелямі з Галілеі, якія ўрад маніцца адчыніць ад начатку новага году, ёсьць доказам таго, што польскі ўрад сапраўды даў беларусам беларускую школу?! Адказваць на гэтыя пытаньні зьяўляецца зусім лішнім. Мы бачым, што аб „рэформах“ толькі гутаркі ды такія, каб не рабіць ніякіх рэформаў, каб не рабіць ніякіх зьменаў у дагэтуляшняй палітыцы.

Відаць, апошніх выпадкаў польскаму ўраду за мала, каб мог ён пераканацца ў тым, што Беларусы зьяўляюцца нацыянальна сьвядомым Народам, які ўжо ўмее дамагацца сваіх правоў і якога ніякая сіла не прыдуша. Чым далей адцягваецца час сапраўдных рэформаў, тым больш павялічваецца прорва меж Беларусамі і польскай дзяржаўнай палітыкай, а разам з гэтым, тым цяжэй будзе знайсьці спосабы правесьці рэформы для задаваленьня Беларусаў.

## Аб арыштах у Заходняй Беларусі.

### Прамова пасла Б. Рагулі

ў Сойме дня 4 лютага с. г.

(Працяг).

Нашых паслоў вінавацяць за тое, што яны вялі сваю народную справу за чужыя грошы. А вы, Паны, за якія грошы вялі сваю работу, шукаючы ўваскрашэньня Польшчы, за свае? Ці-ж не за зрабаваныя грошы, хоць-бы нават і ад сваіх ворагаў? Будзем памятаваць Бэзданы і Фанарны завулак у Пецярбургу. Вы вялі сваю работу дзеля дабра свайго народу. Я не закідаю гэтага Вам, але адначасна катэгарычна кажу Вам: рукі проч ад нашай нацыянальнай справы. Не паном-бы аб гэтым гаварыць і ня нам слухаць.

Маршалак: (звоніць). Далёкі я ад таго, каб хацець мяшацца ў дыскусію, аднак, прымушаны сьцьвярдзіць, што некатарыя часткі панскай прамовы пераходзяць усялякую толеранцыю (паблажаньне). (Галасы: гэта ўжо цынічна. Дзе пасольская прысяга?)

П. Рагуля: Вы баіцёся нашага эканамічнага ўсіленьня, і калі ў зусім кароткім тэрміне нам удалося, дзякуючы нашай арганізацыйнай сіле паставілі мы на добры тор першую нашу эканамічную пазыцыю—Беларускі Банк, пагражаючы вашым эканамічным арганізацыям, Вы абвінавацілі наш Банк аб быццам праступных апэрацыях; дык вось паглядзім якія былі рахункі ў Беларускім Банку нашых арыштаваных паслоў. У 1925 годзе на бягучым рахунку пас. Валошына нічога ня было, на рахунку пас. Тарашкевіча нічога ня было, на рахунках Мятлы і Рак-Міхайлоўскага нічога ня было, затое, як тэрміновыя ўклады пас. Валошын меў 100 дал., пас. Тарашкевіч 511 дал. У 1926 годзе пас. Валошын на бягучым рахунку меў 145 дал. і на тэрміновым укладзе 205 даляраў; дык вось разам 350 даляраў; пас. Мятла меў на бягучым рахунку 510 даляраў, а на тэрміновым укладзе 300 дал., дык разам 810 дал., пас. Рак-Міхайлоўскі на бягучым рахунку 2.275 зл. 25 гр. і 889 дал. 50 ц., пас. Сабалеўскі 960 зл., пас. Тарашкевіч 101 зл., Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада 1087 дал., сальдо на 14.I.1927 году 4 дал. (Голас: А тыя 12 тыс. даляраў з транзыт. банку, Пан не прачытаў). Найболей было на рахунку Рак-Міхайлоўскага і то сума, якая была ім паложана, не перавышала 1200 дал., або меней як гадавыя пасольскія дыеты. Ведаю аб паслу Рак-Міхайлоўскім, што гэта быў чалавек вельмі беражлівы (ашчадны) (Голас: Нічога ня еў і ня піў) і добра я перакананы, што кожны з нас мог прыберагчы гэткую няначную суму. Далей, прашу Паноў, вінавацяць Беларускі Банк і разам з гэтым вінавацяць беларускіх паслоў, што яны праз гэты Беларускі Банк рабілі нейкія грашовыя апэрацыі via Рыга (дарогай праз Рыгу) з Масквой. Паважаныя Паны! Прашу ізноў зьвярнуць увагу, што пераказы на Беларускі Коопэратыўны Банк ішлі з рожных краёў для рожных людзей на нашых землях і гэта сваякі перасылалі пераказамі гэныя грошы і атрымывалі; хто атрымліваў 5 дал., хто 10 і г. д. Ці гэта зьяўляецца праступствам, калі нават Ваш брат будзе жыць у Маскве і прысылаў Вам праз Беларускі Банк, скажым якіянебудзь 100, 200 ці 300 злотых? Ці-ж ён ня мае права прысылаць? А затое пан сьпваздаўца не даказаў тут, што былі якія небудзь фікцыйныя пераказы. Гэтага ня выказала сьледзтва, гэтага ня відаць. Дык вось гэтая арганізацыя зьяўляецца чыстай. Дык аб ніякіх апэрацыях заслужываючых на кару ня можа быць гутаркі. Вось у цэлай гэтай справе шмат ёсьць маны, можа ўсё зьяўляецца маной і брахнёй. Толькі эканамічны байкот усяго што польскае на гэтак званых Усходніх Крэсах прымусіў нас зразумець куды Вы самі сябе заводзіце.

І толькі справай часу ёсьць і не далёка тая пара, калі наш народ гэта зробіць і тады толькі будзеце Вы магчы зразумець, чым зьяўляюцца Усходнія Крэсы для Польшчы. Крэсы гэта жытніца Польшчы. Бяз Крэсаў—Вы самі гаворыце—няма Польшчы. Нам ня трэба агітаваць проці Вас, бо так, як Вы самі проці сябе агітуеце, ніхто з нас ня мае магчымасьці зрабіць. Наш банк мае 900 сяброў і я прakананы, што ў недалёкім часе лік іх падымецца да 9000.

У еднасьці сіла, вось наш дэвіз. Прашу помніць, што тэрор усёгды цягне за сабой рэакцыю як з аднаго, так і з другога боку. Такое беспрыкладнае згвалтэньне пасольскай незачэпнасьці магло мець месца ў Пэрсыі або Турцыі, бо нават царскі ўрад у Расеі не дапусьціў таго, каб арыштаваць паслоў сацыял-дэмакратаў III Дзяржаўнай Думы бяз згоды на тое самай

Думы. Расейская ахранка мела толькі сьмеласьць зрабіць рэвізыю ў кватэры сацыял-дэмакратычнай фракцыі. Польская ахранка ня мае на гэта патрэбы, бо ей служаць правакатары, дзякуючы якім няма патрэбы вясьці рэвізыю; гэная ахранка ўсё ведае ня толькі, што робяць паны паслы, але ведае аб чым яны думаюць, а нават ведае аб тым, аб чым яшчэ ня думаюць. Дык вось, прашу Паноў, не магу не сказаць тут аб тых рэчах, якія нядаўна сталі на соймавым форуме: гэта ёсьць справа пасла Ваявудзкага, якая зьяўляецца моцна зьвязанай з урадам.

Маршалак: Зьвяртаю ўвагу пасла, што гэта не належыць да рэчы. Пан яе абміне.

П. Рагуля: Слухаю, пане маршалку. Не забудзьцеся паны, што за ўсім гэтым сочаць з напятай увагай, ня толькі ўвесь край, але з гэтых дыплёматычных і дзеннікарскіх лёжаў уся Эўропа і Амэрыка.

Уся Эўропа глядзіць на тое, увесь сьвет, на нарушэньне і згвалчэньне праваў Сойму, пасольскай незачэпнасьці, а нават ціхую згоду яго маршалка. Гэта ня робіць на карысьць Польшчы і польскага парлямэнтарызму. Нам Беларусам закідваецца вельмі гучнае слова: здрада, і гэта толькі затое, што мы ўсімі спосабамі спраціўляліся Вашай калёнізацыі і стараемся аб разьвіцьці і народнай сьведамасьці. Відаць, што аблічыліся, бо ў сваім часе стараліся аб абуджэньню і падтрыманьню беларускай нацыянальнай сьведамасьці, процістаўлячы яе ўсяму расейскаму, самой Расеі, перад якой Вы сягоньня трасецеся. Гэтак Вы аблічыліся і вельмі памыліліся, а цяпер ня можаце ўжо ані затрымаць гэтага руху, ані завясьці яго ў русло паводле Вашых праектаў. Мы ўжо знайшлі дарогу і зайдзем туды, куды хочым, а ня туды, куды Вы нас вядзеце. Прэса вашая можа пісаць, падаваць казкі, што ў кішані пасла Тарашкевіча знойдзена 10.000 даляраў, што знойдзена нібы склады варужжа і высачана даныя аб ваенным шпікоўстве. Дзе гэта было, п. рэфэрэнт таго не сказаў, дык маю права аб гэтым сказаць, што гэта мана, мана, мана! Няскончаныя арышты, зачыненьне школаў, зачыненьне нават гаспадарскіх гурткоў, як гэта здарылася ў беластоцкім ваяводзтве, хвальш і правакацыя, вось мэтоды палітыкі польскага ўраду адносна народных меншасьцяў. Не чапаючы паасобных асоб арыштаваных паслоў, зьвяртаю ўвагу толькі на адзін факт. Шмат хто з паноў ведае, што пасол Тарашкевіч быў у свой час палянафілам (любіў польскасьць), ведаеце добра, што ён рабіў, з якім запалам падтрымліваў Палякаў на Усходніх Крэсах, а цяпер той самы пасол Тарашкевіч (голас: даляры яго сапсулі) стаў заядлым ворагам Польшчы і польскасьці (голас: рэнэгат (адступнік). Паважаныя паны, гэта трагедыя чалавечай душы. Гэны чалавек пабачыў, што Польшча нічога ня дасьць нашаму народу, дык пачуў патрэбу, каб вельмі вострым спосабам зьвярнуцца назад да абозу беларускага народу. А калі гавораць аб здрадзе, дык я магу сказаць ад імя беларускага народу, што п. Тарашкевіч, калі і дапусьціўся, дык дапусьціўся толькі здрады сваей прошлай здрады.

Мы разумеем і ведаеем, што пастанова камісіі аб выдачы суду нашых сяброў-паслоў ужо наперад вырашае пастанову Сойму і ня цешымся з надзеі, што польскія палітычныя партыі будуць магчы стаць вышэй свайго вузкага партыйнага шовінізму і паглядзець на справу з пункту гледжаньня дзяржаўнага.

Сойму і польскаму парлямэнтарызму астаецца адна толькі дарога, каб абярагчы яго гонар—адказаць у выданьні суду арыштаваных паслоў і распарадзіцца аб іх безадкладным звальненьню. Але на гэта вам ня хопіць адвагі палітычнай і грамадзянскай.

Не адзін ужо раз зьвярталі мы ўвагу на гэтыя адносіны польскай адміністрацыі да народу на нашых землях, які даводзіць да эксцэсаў (абурэньняў). Пракуратура цьвердзіць, што арыштаваныя паслы і Грамада агітавала сярод народу і падбурала яе да спраціву ўладам і разбою і што наступствам іх дзейнасьці была згуба агентаў паліцыі Сваскевіча, Кузьмы, камісара паліцыі Янчэўскага і іншых.

Яшчэ раз сьцьвярджаю, што ў гэтым віноваты не паслы, але ўрад і Вы, Паны Паслы, якія пазволілі на тое, каб на Крэсах аставалася гэткая адміністрацыя і каб урад вёў гэткую палітыку. Сягоньня маеце магчымасьць і аказыю выявіць, ці салідарызуецеся з гэткай палітыкай ураду ў адносінах да нас, такіх самых грамадзян, як і Вы, толькі другой нацыянальнасьці, ці стаеце за нашым народам, ці проці яго. Цяпер, Паны, слова належыць да Вас!

Канчатак.

Прысылайце грошы на падпіску.

## Вёска.

Родна вёска ўсьцяж бяздольна,
Вечна ў сьлёзах ты плывеш.
І калі-ж ты будзеш вольна
Ды свабодна пажывеш.

Вецер сьвішчыць над табою...
Хмары цёмныя плывуць...
Згаварыўшысь між собою...
Тонам ведзьміным равуць.

Ты ня маеш болей сілы,
Каб на сонца узглянаць,
Ды стаецца сьвет нямілы,
Ты ня кінула стагнаць!

Бура лупіць, твае стрэхі
І заносіць дзесь у даль,
Ўсьцяж ня маеш, ты пацехі,
Нікаму цябе ня жаль.

Прыйдзе зімка разам ліха;
Замяцець выжэй вакон.
Ўсюды сумна, ўсюды ціха,
Як-бы сьніла вечны сон...

*М. Пецюкевіч*

## ПАДОНКІ.

Было-б зусім дзіўным, каб „Сял. Ніва" начала вясьці палеміку з г. зв. „Белар. Словам". Тое што выдаецца пры дапамозе дэфэнзывы ды шулерні ня можа мець ніякай павагі сярод беларускага грамадзянства, дык было-б зусім лішнім адказваць на злосныя безпадстаўныя закіды такой газэты. Калі пішым гэтыя словы маем на мэце толькі адно бараніць беларускую нацыянальную думку, бараніць беларускі нацыянальны рух ад рожнага роду правакатараў ды шулераў, якія спэкулююць пад беларускай фірмай. Зусім лішнім даказываць тое, што ўплывы Паўлюкевіча сягаюць толькі да дзьвярэй шулерні ды інстытуцыі, якая дапамагае яму разьбіваць беларускі рух, але ведаем, што благое зельле найскарэй прырастае і затым трэба заўсёды яго аддзяляць ад добрага. Сусьветная вайна і рэвалюцыя абяздолела шмат асоб, і шмат з іх сталіся проста падонкамі, якіх грамадзянства выраклася. Вось кампанія Паўлюкевіча якраз складаецца з такіх падонкаў, якіх грамадзкія справы на стольні цікавяць на колькі з іх можна сабе „понимаете-ли, прилично зарабатывать". Нічога дзіўнага, што такая кампанія за канцэсію на шулерню вядзець дэзорганізацыйную працу сярод беларускага руху. Гэтая праца пачынае ўжо прыядацца на'т дэмакратычнаму польскаму грамадзянству, і яно ўжо вытыкае ўрадавым колам, што падтрымываюць кампанію спэкулянтаў і хочуць на іх апірацца. Ці-ж праца палітычная спэкулянтаў, як Паўлюкевіча можа выклікаць заздрасьць сярод якой небудзь запраўды беларускай партыі?! Ці-ж за авансікі беларуская партыя можа вырачыся свaей праграмы і сваіх ідэалаў?! Ці-ж за авансікі і канцэсіі шчыры Беларус можа стацца правакатарам?! Ці-ж сумленны грамадзянін можа вясьці шулерню і за мазольныя апошнія грошы слабавольных людзей рабіць сабе маёнтак?! Усё гэта можа рабіць толькі кампанія Паўлюкевіча.

Калі ходзіць аб беларускіх паслоў, сяброў Сялянскага Саюзу, дык яны, як прадстаўнікі Беларускага Народу дамагаліся ад польскага ўраду, дамагаюцца і будуць дамагацца ўсіх належных Беларусам правоў. З гэтай пасольскай працай паслы не хаваюцца і абвяшчаюць у прэсе. Гэта ім паставіць у віну можа толькі Паўлюкевіч, які баіцца каб польскі ўрад не пайшоў з рэформамі да беларускага пытаньня, бо тады роля Паўлюкевіча будзе зусім непатрэбнай.

Дагэтуль на жаль маем толькі тое, што ўсе дамаганьні беларускіх паслоў асталіся сярод ураду бяз рэха, затое Паўлюкевіч быццам узмацоўвае свае пазыцыі, зьбірае каля сябе больш падонкаў, бо шулерня відаць рэч даходная і затым за гэтую концэсію „Бел. Слова" расьпінаецца закідаючы брудам беларускі нацыянальны рух. У гэтай брахні няма, ёсьць ведама, ніякай меры. „Б. Слова" асьмеляецца пісаць аб закупляньнях пасламі дамоў, зямлі ды атрымліваньні падарункаў у форме друкарні. Больш злоснай брахні ўжо ня выдумае, ніхто, бо Сялянскі Саюз дагэтуль ня мае свае друкарні. Калі ёсьць беларуская друкарня, дык зьяўляецца яна ўласнасьцю фірмовай супалкі, а не Саюзу.

Вось бачым, што брахня Паўлюкевіча і на'т выпісваньне у „Бел. Слове" словаў „подласьці" кваліфікуюць толькі аўтара іх, і зусім не трапляюць па адрасу. Падонкі могуць толькі выслаўляцца падонкамі, ды пісаць рожную іляжу.

# З жыцьця пад Польшчай.

## З Сойму.

### Дзе-ж зямельная рэформа?

На паседжаньні Сойму 10 г. лютага быў разважаны бюджэт м-ва зямельных рэформаў. Пасьля прамоваў паслоў, якія рабілі закіды міністру, забраў голас міністар зямельных рэформаў Станевіч; ён сказаў, што вельмі аптымістычна заглядаецца на працу свайго міністэрства. Хоць сягоньня яшчэ ня ўсё ў парадку, але поступ ужо вялікі, а апарат у міністэрстве не благі.

Шмат закідаў зроблена сапраўдных, але наперад трэба было-б урэгуляваць агульныя рэчы, а пасьля толькі прайсьці да падрабязнасьцяў. Бяруцца пад увагу ня толькі патрэбы польскага народу, але і ўсяго народу. Лісты з Усходніх Крэсаў выказываюць палепшаньне, (мусіць абшарнікі дзякуюць, што не парцэлююць маёнткаў) Адказываючы на закіды, што нібы ўрад маршалка Пілсудскага нават і ня думае аб зямельнай рэформе, міністар заявіў, што ў першай чацьвярціне 1926 году на зямельную рэформу прызначана было 3 міл. злотых, а ў першай чацьвярціне с. г. 11 мільёнаў. Падчырківаў ён таксама сваю рупнасьць аб парабках з маёнткаў якія застаюцца бяз месца і парэшце] катэгарычна запярэчыў закідам, што нібы хацеў ён зняважыць польскага селяніна.

Як бачым усе польскія міністры тое толькі робяць, што гавораць аб зямельнай рэформе, а беларускі селянін як сядзеў бяз зямлі так і дагэтуль сядзіць. Ды дзе гэта відаць, каб панскі ўрад даў сялянам зямлю бяз выкупу. Гэтага селянін можа спадзявацца толькі ад свайго сялянска-работніцкага ўраду.

### Канфлікт між соймам і ўрадам.

У суботу 12 лютага Сойм закончыў дыскусыю над бюджэтам у другім пытаньні і прыступіў да галасаваньня над паасобнымі крэдытамі. Пры галасаваньні, неспадзеўкі для ўраду, Сойм ня прыняў некаторых крэдытаў прапанаваных урадам. У сувязі з гэтым часьць цяперашніх міністраў атрымала вотум недаверу. Калі-б пры трэцім пытаньні Сойм галасаваў таксама, то ўзьнікне канфлікт між Соймам і ўрадам, які можа закончыцца пераменай ураду.

### Прамова віцэпрэм'ера Бартля.

Пасьля дыскусыі над бюджэтам узяў голас віцэпрэм'ер Бартэль, які фактычна зьяўляецца старшынёй ураду. Прамова Бартля не падабалася на'т і польскім соймавым клюбам, не гаворачы ўжо аб нацыянальных меншасьцях. Цікава для нас з яго прамовы тое, што чым болей п. Бартэль астаецца міністрам, тым далей уцякае ён ад вырашаньня справы нацыянальных меншасьцяў. З ягонай прамовы можна было-б чуць зрабіць вывад, што Беларусам у Польшчы лепш жывецца чым Палякам.

Прамова Бартля зрабіла прыкрае ўражаньне на паслоў, нават на Палякаў — шавіністых, і затым захацелі яны адчыніць дыскусыю над прамовай. У панядзелак 15-га лютага мелася адбыцца дыскусыя, падчас якой магчыма будзе падана прапазыцыя аб недаверу ўраду м. Пілсудскага. За гэтай прапазыцыяй, ёсьць ведама будуць галасаваць беларускія паслы.

### Справа пасла Ваявудзкага.

Маршалкоўскі суд у справе пасла Ваявудзкага пераслухаў на паседжаньні 9 г. лютага, у прысутнасьці самага п. Ваявудзкага, п. Стпічынскага, п. Рудзінскага і пас. Багінскага, посьле гэтага вечарам дапрашаваў кап. Сухэнка а таксама рэфэрэнта II аддз. з Горадні Жабуля.

З вестак якія прыйшлі ў соймавыя кулуары варты ўвагі паказаньня пас. Галкі, які меў заявіць, што як сэкрэтар „Вызваленьня" на дзейнасьць браў грошы партыі з двух крыніцаў: 1) ад цэнтральнага ўраду партыі і гэтыя грошы браў у польскіх марках і 2) ад Ваявудзкага, а гэныя грошы браў у чэскіх каронах. Калі запытаўся адкуль паходзяць гэтыя грошы Ваявудзкі паясьніў, што ад дэфэнзывы.

Ваявудзкі меўся даставіць маршалкоўскаму суду 13 квіткоў за ўзятыя „Вызваленьнем" яго грошы. Гэныя квіткі падпісывалі людзі з Вызваленьня, як пас. Галка, сэн. Карніцкая, а таксама сэкрэтары паменсных арганізацыяў „Вызваленьня". На гэтых квітках адбіты пячаткі Вызваленьня...

Вось бачым, як спрытна польскія партыі працавалі на беларускіх землях за грошы дэфэнзывы, якія ішлі праз рукі п. Ваявудзкага добрага прыяцеля і кумпана партыйнага вядомага ўсім Беларусам дзеяча на віл. грунце, які стараецца ў свaей газэце абяліць Ваявудзкага.

## Пасол Сьмяроўскі вышаў з Клюбу Працы.

10 г лютага пасол Сьмяроўскі паведаміў прэзыдыум Клюбу Працы, што з прычыны становішча, якое заняў Клюб у справе выданьня 6 арыштаваных паслоў, ён выходзіць з Клюбу Працы.

У часе галасаваньня пасол Сьмяроўскі ня быў у Варшаве.

## Сеўныя крэдыты для земляробаў.

З мэтай дапамагчы дробным земляробам, якія мелі летась недарод, міністэрства земляробства і дзяржаўнай маемасьці прызначыла Віленскаму Ваяводству на вясеньнія засевы ў 1927 г. 100.000 злотых. Сума гэтая маніцца быць выданай у форме грошавых пазык.

Зярном можа быць выдавана толькі пры згодзе пазычаючага. Пяршынство будуць мець тыя земляробы, якія яшчэ з гэтых пазык не карысталіся, або ўзятыя пазыкі аддавалі цалком. Паручацца могуць толькі коопэратыўныя саюзы, беспасярэдня належачыя да земляробскіх арганізацыяў і дзейныя на абшары павету. Гэтыя арганізацыі будуць адказваць перад Дзяржаўным Зямельным Банкам.

Тэрмін звароту пазыкаў абмяжоўваецца днём 1 сакавіка 1928 году. Апрацэнтаваньне падымаецца да 2½% на год. Ваявода можа падвысіць гэты процант на карысьць падзельнай інстытуцыі да 3½%.

Разам з гэтым міністэрства земляробства і дзяржаўнай маемасьці прызначыла Навагрудзкаму ваяводзтву 500.000 зл. на засеўныя пазыкі.

З дасюляшняй практыкі можам толькі зацеміць, што ўсе гэтыя грошы пойдуць або паном, або шарачковай шляхце ці нат асаднікам.

## Зьмены ўставы аб лучэньню грунтаў.

Міністэрства зямельных рэформаў апрацавала праект у форме распараджэньня Прэзыдэнта Рэспублікі адносна зьменаў у ўставе аб лучэньні грунтаў.

## Паніжэньне дысконтавай нормы.

Рада Польскага Банку панізіла, пачынаючы ад 11 г. лютага, афіцыяльны процант з 9½ на 9 ад вэкслёвых пазык і з 11% на 10½% ад пазык на бягучых рахунках.

## Круцельства солтысаў.

10 г. мес. у Віленскім Акруговым Судзе разьбіраліся дзьве справы солтысаў, якія займаліся круцельствам на абшары Віленска-Троцкага павету. Солтыс з Нямэнчынскай воласьці, Віленска-Троцкага пав. Рачкоўскі, зьбіраючы падаткі ў 1925 г. забраў на свае патрэбы 750 зл. і вярнуў іх толькі ў канцы 1926 г. Вінуўны кажа, што гэта ня было круцельства, бо гэтыя грошы былі не ўрадавыя, лічацца яны ўрадавымі толькі ад тэй пары, калі іх уносяць у валасную касу. Суд не згадзіўся з гэтым засудзіў яго на 3 месяцы вастрогу.

* * *

Беларусь, мая сьвятая,
Родная Айчына,
Як жыцьцё мне дарагая,
Ты паслухай сына!

У Цябе хачу пытацца,
Як сынок у маці,
Што рабіць, дзе мне дзявацца!
Гора каб ня знаці.

Ты засталась зрабавана
Блізкімі «сястрамі»;
Ланцугамі акавана
З роднымі сынамі.

Навучы, як мы павінны
Ланцугі парваці.
Гэты зьдзек наш безупынны
Мусім паканаці!

Далей зьдзек цяжкі чужацкі
Зносіць немагчыма,
Безнадзейна чакаць ласкі
Усьцяж не вынасіма!

Беларусь любая Маці
Плачу над Табою
Сьлязой вернага дзіцяці
Горкаю сьлязою.

*М. Пецюкевіч*

Гэтак сама і солтыс Шумскай вол., ваенны інвалід, А. Валіновіч зрабіў круцельства, толькі з тэй розьніцай, што зараз-жа вярнуў грошы як войт зажадаў. Суд апошняга солтыса апраўдаў.

## Забойства солтыса.

6 г. лютага жыхар м. Друскенікаў Антось Дапулевіч загубіў солтыса з м. Ротніцы, Пётру Пецінкевіча. Прычынай загубы была помста.

## Страшэнная катастрофа ў Кракове.

12 г. лютага каля 11 гадзіны днём на вуліцы Слаўкоўскай здарылася страшэнная катастрофа, якой ахвярамі сталася некалькі асобаў. Едучы ад рынку ў кірунку вул. Доўгай па левым баку езьдні самаход наляцеў на тротуар і ўдарыўся аб мур прыціскаючы чатырох асобаў. Пасьля гэтага кіраўнік самаходу і яго ўласьнік Вэгфэльц зараз-жа ўцяклі. Адзін з ахвяраў Фэлікс Мараўскі 36 гадоў, муляр па фаху, безработны, які памёр праз некалькі мінут. Тры другія ахвяры — Станіслаў Соляр, муляр, Паўлюк Гэльчык, работнік і студэнтка Каміля Камэнц, дасталі цяжкія раны.

# Што дзеецца ў сьвеце?

## Канец партугальскай рэвалюцыі.

12 г. лютага прыходзяць весьці, што палажэньне ў сталіцы Лізбоне стала нармальным. Вулічны рух вярнуўся. Банкі і крамы адчынены. Цягнікі ходзяць. Апрача камэнданта Жака Монсела Карвалё, якому ўдалося ўцячы на маторнай лодцы, усе павадыры бунту пасаджаны ў вастрог. Паводле вестак з ангельскіх крыніцаў, партугальскі ўрад маніцца скасаваць права забастовак.

Рада міністраў пастанавіла прылажыць энэргічныя санкцыі да дзеячаў рэволюцыі. Ваеннае палажэньне пастаноўлена задзяржаць. Забастоўка чыгуншчыкаў скончылася.

## Перарваньне польска-нямецкіх гандлёвых перагавораў.

Ужо даволі доўгі час паміж Польшчай і Няметчынай вяліся перагаворы аб заключэньню гандлёвага дагавору. Апошнімі днямі гэтыя перагаворы перарваны. Нямецкі ўрад хоча прымусіць Польшчу згадзіцца на ўсе варункі, якія прапануюць Немцы. Калі Палякі ня згодзяцца на нямецкія варункі, то ў Польшчы і далей будзе трываць церазмернае безрабоцьце і цяжкае гаспадарчае палажэньне.

## Нялад з Кітаем у ангельскім парлямэнце.

З Лёндана пішуць, што павадыр работніцкай партыі Рамсай Мак-Дональд пачаў заядлую барацьбу з палітыкай ураду ў адносінах да Кітаю, крытыкуючы пасылку войска ў Шанхай. Бальдвін паведаміў, што міністар замежных справаў сэр Аўстэп Чэмбэрлен падаў поўнае высьвятленьне ў справе кітайскай палітыкі. Прэм'ер думае, калі-б зьявілася небясьпека, ня можна было-б зрабіць эвакуацыі Шанхаю. Справа высадкі войска залежыць ад таго, якое будзе палажэньне там на месцы. Калі-б мясцовыя ўлады прызналі, што неадложную высадку войска ў Шанхаю можна яшчэ працягнуць, дык першая брыгада засталася-бы ў Гонг-Конгу. Бальдвін прырок, што высылка войска мае на мэце толькі абарону жыцьця ангельскіх грамадзян.

## Англія хоча прызнаць кантонскі ўрад.

Паводле весьцяў з Кантону, тамашні міністар замежных справаў Аўгэнь Чэн меў прад многатысячным натоўпам прамову, у якой між іншым аб'ясьніў, што на аснове прыхадзячых з Эўропы вестак відаць, а асабліва ў Англіі вельмі слаба арыентуюцца ўва ўнутраных адносінах Кітаю. Кантонскі ўрад аднак не намерываецца адказацца ад далейшай барацьбы з ангельскім імпэрыялізмам, і толькі тады будзе магчы зрабіць з ім дагавор, калі апошні прызнае кантонскі ўрад за адзіны суверэнны ўрад Кітаю.

# Маленькі фэльетон.

## З гарачага у халодную

Пад самым вакном завыў сабака... — Цыц праклятны!... На сваю галаву!—вылаяўся дзядзька Пранук — Старшыня Гуртка Інстытуту. Ой не на дабро гэта!... Ой будзе нейкае ліха!... — падумаў ён укладваючыся спаць...

І ня спалася яму, і сны былі нейкія не вясёлыя, на'т дзіўныя... Усё быццам ловяць яго... хочуць схапіць і пасадзіць на нешта гарачае... А ён упіраецца, а ён уцякае... А яго ўсё ловяць, ды ўсё на гарачае, на гарачае... І раптам праз гэты трывожны сон, калі чалавек ніто сьпіць ніто дрэме, а ўсё чуе, яму пачудзіліся крокі, шмат крокаў на дварэ, нейкі шум, гоман, і забрахалі сабакі... Праз вокны заблісжалі электрычныя лямпачкі і пачаўся стук у дзьверы...

— Што гэта?!... Пажар ці што?!... — ня мог сосну яшчэ ўцяміць сабе Пранук, але, як быў у кашулі саскочыў з ложка і пабег да дзьвераў...

— Адчыніце!... Паліцыя!... — даносілася з двара...

— Паліцыя?!. . — зьдзівіўся Пранук і, чыркнуўшы сярнічку, зірнуў на гадзіньнік — была 3-цяя раніцы — а бадай іх!... І ў гэткаю пару!... Здарэньне якое, ці што?!... падумаў ён адчыняючы дзьверы...

Увайшлі камэндант павятовай паліцыі, 2 пастарунковых і 2 сьведкі з жыхароў мястачковых... Электрычная лямпачка заміргала ў твар Пранку, аж той прыплюшчыўся, пасьля сьлізнула па ложку, стале, шафцы і ізнуў затрымалася на ім... — Да пана з рэвізыяй — заявіў камэндант і ягоныя пытальныя вочы падозрана ўставіліся на Пранука...

Гэта значыцца... трасьці? — перапытаўся супакойна Пранук — калі ласка... але прашу паказаць упаважненьне...

— А ці, пане, mnie nie znasz?!...

— Не!... Ня ведаю...

— Як?!... Мяне, камэнданта павятовага?!. Пане Пранук, але-ж я вас ведаю!...

— Можа вы і ведаеце, але я...

— Ого, psia krew! Не на дурнога трапіў — падумаў камэндант і, парыўшы ў партфэлі, дастаў упаважненьне ім самым і напісанае і падпісанае...

Пранук запаліў лямпу і прачытаў упаважненьне, дзе сапраўды было: што ў яго, у Пранука зрабіць рэвізыю з усімі вынікамі па гэтакім і гэтакім артыкулам Кодэксу Законаў...

— Калі ласка, зачынайце — ня чуючы за сабой ані якое віны, супакойна запрапанаваў Пранук адчыняючы шафку, стол і рожныя шуфляды...

— Pan jesteś prezesem Гуртка?!...

— Так ёсьць, пане, але... Гуртка Інстытуту Гаспадаркі і Культуры — арганізацыі зусім апалітычнае і залегалізаванае... Вось і дазвол на легалізацыю...

— Ну гэта ўсё роўна! Jeden djabeł!... I ten гурток і гэты гурток, а абодва беларускія...

— А якія-ж пан хацеў, каб былі польскія¿!...

— Прашу не жартаваць... Niech pan odda ўсе паперы проціпаньствовыя...

— А якія, пане, паперы лічуцца проціпаньстововымі?!...

— Ну, пан ёсьць за mądrym надта!... Proszę panów przystąpić do rewizji — зьвярнуўся да пастарунковых і сьведкаў, і рэвізыя пачалася...

Спачатку разглядалі кнігі, газэты, паперы... Распытваліся аб кожнай... на'т парадзілі Пранку, каб замест „Сялянскай Нівы" ляпей выпісваў „Беларускае Слова..."

— Няхай, пан камэндант, парадзіць гэта лепей сваім пастарунковым — адгрызнуўся Пранук — а я рады панскай не патрабую і ведаю, якія мне газэты чытаць і выпісываць... Пасьля адлажыўшы ў бок, больш падозраныя і быццам процідзяржаўныя, — пасьведчаньні Беларускае Вайсковае Камісіі, якая ў 1919 годзе была створана п. Пілсудскім, далей запросіны на спатканьне Новага Году ад Віленскага Т-ва Каапэратываў, Статут Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, партыйны білет „Сялянскага Саюзу" — яны пачалі „трасьці" шафку, стол, ложка, адзеньне, калыску дзіцячаю, пялёнкі і іншае і калі нічога не знайшлі ўзяліся за самога Пранука — прымусілі зьняць брушны кампрэс, якім, як хворы, Пранук быў апутаны, пасьля пачалі яго ўсяго абмацваць...

— Ну што... тлусты?!... — іранічна спытаўся Пранук...

— Пан усё жартуеш, але дачакаешся іншага...

— А гэта ня жарты — пачаў гарачыцца Пранук — самі-ж бачыце, што я ў начнай кашулі, а на голым целе напэўна кішэняў няма...

— Няхай пан шмат не гавора, а адзеваецца і пакажа, што ёсьць у пана на дварэ...

І перетрасьлі карову, парсюка, кур, на'т разбілі адно яйко, каб спраўдзіць ці не схаваны тамака часам даляры... і калі паказаўся ўжо сьвет, рэвізыя была скончана бяз усякіх вынікаў на'т адложаныя ў бок, быццам падозраныя паперы і тых не ўзялі, але Пранку ўсё-ж такі наказалі прыйсьці на пастарунак дзеля дадатковага „badania" і калі ён пацягаўшы па пастарунках нарэшце яшчэ ні зашто ні прашто адсядзеў 4 дні ў „халоднай", то вярнуўся да сваёй жонкі зусім пераконаным, што калі бачыш увасьне, што хочуць цябе пасадзіць на гарачае, дык напэўна адсядзіш у „халоднай"...

*Стары Хисень.*

